№ 2 (144). Вільня, 25 Студзеня 1939 г. Год XI.

# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ



# ПРАЗ КНІЖКУ ДА СЬВЯТЛА І ДАБРАБЫТУ

Нядаўна прэса падала наступную вестку: Згодна з данымі Галоўнага Статыстычнага Ураду ў Польскай Рэспубліцы ёсьць 34.480 бібліятэкаў з 15 мільёнамі 800 тысячамі тамоў. З гэтага ліку прыпадае на публічныя бібліятэкі 26,9 працэнтаў (38,1 прац. тамоў), на бібліятэкі пачатковых школаў 66 прац. (38,1 прац. тамоў), на бібліятэкі сярэдніх школаў 3,9 прац. (15,4 прац. тамоў), вучыцельскіх школаў 1 прац. (4 прац. тамоў), высокіх школаў 0,06 прац. (17,4 прац. тамоў), на вайсковыя бібліятэкі 0,04 прац. (1,4 прац. тамоў) і ў канцы на вастрожныя бібліятэкі 0,4 прац. (0,6 працэнтаў тамоў)

На першы пагляд лік 34,480 бібліятэкаў выглядае даволі вялікім. Тымчасам калі прыглядзімся да сапраўднага стану распаўсюджаньня кніжак і бібліятэкаў у нашым краю на вёсцы, дык пабачым, што іх там надта мала, бо знаходзяцца яны пераважна у местах. А калі дзе і ёсьць на вёсцы бібліятэкі, дык яны вельмі скромныя і складаюцца ў большасьці з кніжак польскіх і расейскіх, не заўсёды даступных для нашага вясковага чытача. Праўда, многа беларускіх бібліятэкаў і то бібліятэкаў багатых і цэнных, якія былі пры гуртках розных беларускіх арганізацыяў, зьліквідавана адначасна з гэнымі арганізацыямі. Гэта, ясна, не паправіла палажэньня. Факт-жа, што кніжка ў нас мала распаўсюджаная, астаецца далей фактам, якім хваліцца ня прыходзіцца. Бо кніжка, колькасьць яе распаўсюджаньня, а так-жа колькасьць бібліятэкаў ёсьць меркай і доказам вышыні культуры народу і разьвіцьця ягонага. Добрая бібліятэка, збор рознаякіх скамплектаваных кніжак ёсьць, можна сказаць, быццам крыніцай усебаковай веды, каторую могуць чэрпаць усе, хто толькі мае да гэтага ахвоту.

Характар бібліятэкаў, як відаць нават і з вышэй прыточанае зацемкі, бывае рознаякі. Ёсьць бібліятэкі школьныя, папулярныя, фаховыя, ёсьць бібліятэкі грамадзкія, дзяржаўныя і прыватныя. Для нас Беларусаў, асабліва сялянскае моладзі, найбольш патрэбныя бібліятэкі характару грамадзкага з кніжкамі папулярна-навуковымі і з цікавай прыгожай бэлетрыстыкай (апавяданьнямі, расказамі, рамансамі). Апрача таго, характар бібліятэкі павінен вызначацца беларускасьцю. Гэта значыць, трэба старацца, каб у нашых бібліятэках было як найбольш беларускіх кніжак. Праз такую бібліятэку чытач можа ўсяго навучыцца. Можа і павінен пазнаць сваю старонку, ейную мінуўшчыну, яе прастор, насельніцтва, слаўных змагароў, шляхі, якімі людзі хадзілі, як разьвівалі і разьвіваюць сваё жыцьцё. Праз бібліятэку чытач можа і павінен знайсьціся ў сувязях з шырокім сьветам, каб лепш мог зразумець сваё палажэньне і паляпшаць сваё жыцьцё.

Пры бібліятэках трэба старацца закладаць так-жа чытальні і арганізаваць пры іх гутаркі, у часе каторых можна было-б абменьвацца думкамі, расказваць адны другім аб прачытаных кніжках і г. д.

Гаворачы аб беларускіх грамадзкіх бібліятэках, трэба сказаць, што абставіны сучаснага нашага жыцьця вельмі няспрыяючыя для гэтае справы. Аднак-жа ёсьць некаторыя магчымасьці, якія пры добрай волі можна выкарыстываць дзеля пашырэньня беларускіх кніжак. Вось-жа паўстаюць цяпер у нашым краю бібліятэкі валасныя, закладаюць часта бібліятэкі Ахвотніцкія Пажарныя Стражы, коопэратывы, вучыцялі, розныя польскія арганізацыі, а так-жа можна закладаць і прыватныя бібліятэкі. Дзеля таго мясцовыя жыхары павінны ўсімі сіламі старацца, каб у кожнай грамадзкай бібліятэцы абавязкава знайшліся беларускія кніжкі, перад усім-жа мусяць яны быць у валасных бібліятэках, каторыя закладаюцца коштам усіх грамадзян тае ці іншае воласьці.

Урэшце справа прыватных беларускіх бібліятэкаў. Іх можна закладаць бяз ніякіх фармальнасьцяў, але каб залажыць бібліятэку, сабраць хоць невялікі камплект кніжак, трэба грошаў і то нямала, а ў нас бадай усюды галіта. Тут выхадам будзе модная цяпер складка. Трэба, каб некалькі чалавек сабраліся, згаварыліся і куплялі кніжкі ў складчыну, карысталі з іх самі і другім пазычалі. Фактычна ў нас у гэтым ужо зроблены вельмі добры пачатак. На вёсцы некаторыя з беларускіх інтэлігентаў маюць свае прыватныя бібліятэкі, каторыя спаўняюць вялікую культурную работу. Прыгожы гэты пачатак мусім як найшырэй разьвіваць, памятуючы, што праз кніжку і бібліятэку ідзём да сьвятла і да дабрабыту!..

Я. Н.

# Расея і „Русския“

Увага цэлай Эўропы цяпер сьціроўваецца і на ўсход, у бок СССР — Расеі. Гэта паказвае, што надыходзіць пара барацьбы за ўплывы ў гэтай шостай часьці сьвету. Няма сумніву, што гэтая барацьба ў першую чаргу пачнецца на абшарах Беларусі і Украіны. Камуністы даўно прадбачылі гэтую вялікую і рашучую барацьбу, якая дасьпявае ўжо некалькі дзесяткаў гадоў і дзеля гэтага сьпяваючы „Это будет последний и решительный бой“, што ў інтэрнацыянале адносіцца да сусьветнай рэвалюцыі, у СССР датасавалі гэную думку да расейскага патрыятызму і „Русскага“ народу.

Зазначаем, што мы прызнаём і шануем Расейскі (Вялікарускі) народ, які мае сваю мову, культуру, багатую літаратуру і гісторыю, але на ягоных этнографічных землях. Гэта значыць прызнаём гэты народ паводле разуменьня заходне-эўрапэйскага. Заўсёды-ж будзем змагацца з расейскім вялікадзяржаўніцкім наступам, каторы хоча праглынуць Беларусаў і на якім апіраюць свой сьветапагляд і цяперашнія маскоўска-бальшавіцкія валадары. Бо-ж палітыка гэтых валадароў ідзе ў кірунку паступовага ністажэньня беларускага адраджэнскага руху і апошнім часам дайшло ўжо да таго, што весткі аб якой-небудзь пазытыўнай беларускай культурнай працы ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы зьяўляюцца рэдкасьцю. У СССР, як за „цара бацюшкі“, ідзе да таго, каб інтарэсы ўсіх народаў Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў падпарадкаваць інтарэсам „Русского Народа“.

Расейскі імпэрыялізм зрадзіўся ў працягу некалькіх стагодзьдзяў. Паўстаў ён і разьвіўся пад клічамі „собирания русских земель“, „освобождения славян“, „защиты православия“, „усмирения инородцев“ і г. д. Амаль пяцьсот гадоў Маскоўшчына вяла пад гэнымі клічамі сваю мілітарную экспансію ўва ўсе бакі ад свайго этнографічнага аселішча і гэта аформіла паняцьце Рускага народу зусім ня так, як аформілася паняцьце аб народзе (нацыі) сярод заходне-эўрапэйскіх народаў. Дзеля гэтага Расейцы раўняючы сябе з іншымі народамі сьвету, зусім і самі не разумеюць сябе. Гэта ярка выяўляе адзін рускі паэт такімі славамі:

„Умом России не обнять...
„В Россию можно только верить.

Заваяваныя землі ня былі для Расеі тым, чым былі для заходне-эўрапэйскіх дзяржаваў заморскія калёніі. Для Расеі заваяваныя землі станавілі базу далейшага заваяваньня. Дзеля таго Расейцы ня толькі што не давалі разьвіваць заваяваным народам сваей народнай культуры, але наадварот — ністожылі яе. Яны прадалі Аляску, калі ўсьведамілі, што адтуль няма куды пашыраць сваей мілітарнай экспансіі, а за бязвартасныя закаспійскія сьцяпы заўзята змагаліся, каб адтуль мець магчымасьць мілітарна гразіць суседзям і спыняць уплывы эўрапэйскіх дзяржаваў.

Ад Івана Каліты аж да сучаснасьці Расейцы, з прычыны беспрарыўнай мілітарнай экспансіі і заваёўваньня ўсё новых зямель, *не змаглі вырабіць у сабе пачуцьця сваіх этнографічных граніцаў сваей бацькаўшчыны.* Іхняе „отечество“ ўсьцяж расшыралася і было для іх усюды там, дзе ступіў нагой рускі салдат.

Англія, Францыя, Нямеччына і іншыя дзяржавы мелі бацькаўшчыну-мэтраполію і мелі калёніі, як нешта дадатковае да бацькаўшчыны. У псыхіцы Расейцаў такога паняцьця, такога падзелу на блізкае й далёкае няма. Расшыранае паняцьце бацькаўшчыны на ўсе чужыя, заваяваныя землі зусім пакрываецца з цяперашнім інтэрнацыяналізмам у СССР. Калі заклікае Сталін, або іншыя палітыкі СССР да выяўляньня патрыятызму і да любові „отечества“, дык гэта зусім ня ёсьць супярэчна ані з ідэяй камуністычнага інтэрнацыяналізму, ані з паняцьцем Расейцаў аб бацькаўшчыне, бо іхняе „отечество“ ўсюды там, дзе стаіць савецкі чырвонаармеец.

Нацыянальнае пачуцьцё і нацыянальныя ідэалы Расейцаў нескрысталізаваны. У іх пачуцьцё бацькаўшчыны заступае пачуцьцё дзяржавы, а нацыянальнае пачуцьцё заступае дзяржаўны патрыятызм.

Дзеля гэтага Расейцы не маглі (многія і цяпер ня могуць) зразумець нацыянальнай асобнасьці іншых народаў, асабліва Беларусаў і Украінцаў.

Расескія масы выгадаваны векавымі наступамі на суседзяў і перамогамі над імі; пры тым прывучаны да „пачытаньня“ цароў і павадыроў, якіх навучаны ўважаць за нейкіх чарадзеяў. Гэта абясьсіліла ініцыятыву і самадзейнасьць рускай масы. Калі кола гісторыі пачало круціцца ў адваротны бок, — калі расейскаму цару пачала не ўдавацца мілітарная экспансія, — у масах згінуў міт царапачытаньня і яна жорстка памсьцілася за сваю веру ў яго на ім-жа самым. Але пасьля гэтага не праявіла ані сваей ініцыятывы, ані самадзейнасьці. Зненавідзеўшы цара, лёгка прыняла на яго месца камуністычную дыктатуру, зьмяшчаючы ўсе свае ідэалы ў асобе Леніна-Сталіна.

У такім псыхічным стане расейская маса знаходзіцца і цяпер. Нацыянальнай сьведамасьці, у нашым разуменьні, як ужо сказана, у расейскіх масах няма. Этнографічныя граніцы для іх ня існуюць. Паняцьце „отечества“ і „русской власти“ зьліліся туманна з інтэрнацыяналізмам і агулам бальшавізмам.

Тыпова расейскі імпэрыялізм з мэтамі асыміляцыйнымі далей трывае і ён можа найбольш прычыніцца да развальваньня СССР.

*В. А—скі.*

## Да ўсіх супрацоўнікаў „Шляху Моладзі“

*У месяцы лютым 1939 году мінае 10 год існаваньня і працы „Шляху Моладзі“. Угодкі гэтыя рэдакцыя мае намер адзначыць пабольшаным выданьнем „Шляху Моладзі“. Пабольшаны юбілейны нумар выйдзе 25 лютага, або 5-сакавіка. Пажадана было-б, каб у нумары гэтым знайшліся матарыялы як найбольшай колькасьці супрацоўнікаў „Шляху Моладзі.“ Дзеля таго загадзя ветліва просім усіх Паважаных Супрацоўнікаў „Шл. Моладзі“ прыгатаваць і прысляць адпаведныя матарыялы да 15 лютага 1939 г.*

РЭДАКЦЫЯ

## Ноч

*Зьмярканьня шэраю дзяругай*
*пакрыты сонныя палі*
*і толькі вёска чорнай смугай*
*як-бы маячыцца ў далі...*

*Панура й сумна, бы ў пустыні,—*
*кругом пануе ціхі змрок...*
*як пад заклятаю сьвятыняй,*
*павіс над Краем злы урок...*

*І толькі зоркі з зімнай ласкай*
*шапочуць нештачка распьлі...*
*О, ноч! калі-ж ты кончыш казку*
*людзкой нядолі на зямлі?*

АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ

## Дзікева

*Вецер—хлопец дурны і залётны—*
*затужыў над парканам сівым.*
*Дзень варожыць*
*быць сяньня пагодным,*
*вецер вучыцца быць маладым.*

*Вёска быццам ў зьнямозе прысела.*
*Па гумнох вераб'іны прывет.*
*Я хачу цябе сяньня, Дзікева,*
*кінуць вершам зьвінячым у сьвет.*

*Хоць ня маеш ніякае славы*
*ты, —*
*як тысячы вёсак другіх, —*
*толькі вецер, хлапчына кучравы,*
*любіць струны парканаў тваіх.*

*Пры балоце...*
*над рэчкай Бярэжай*
*расьцягнуліс тваe хутары;*
*заблыталіся сьцежкі і межы,*
*быццам нейкі узор да гары.*

*Што Бярэжа?...*
*Балотная рэчка.*
*Летам куры брыдуць праз яе.*
*Яе бруднай вадзе на сустрэчу*
*толькі вецер шуміць па лазе.*

*Там — за рэчкаю —*
*сад нейкай пані,*
*а у садзе запушчаны двор,*
*ды цікавяць мяне тут сяляне*
*і спалоханых воч іх дакор.*

*Маладзіцы,*
*хлапцы і дзяўчаты,*
*і старыя дзядзькі,*
*і дзяды,*
*хто душу вашу сумам сасватаў,*
*хто зблытаў вашых дум правады?*

*Каля вас праз балоты дарога,*
*на дарозе людзкія сьляды...,*
*Вы-ж ня маеце страціць нічога,*
*апроч шэрай сялянскай бяды.*

*Дык нашто і спалох і трывога*
*у таёмных пацёмках начы.*
*Быццам спадкам нямая зьнямога*
*і жабрачча пакора душы.*

Дзікева. 1.XII.38 г.

М. МАШАРА

## Dzie-ž roŭnaść?...

Da 1938 h. z polskich arhanizacyjaŭ moładzi ŭ našym Krai najbolš byŭ viedamy i padtrymlivany h. zv. sanacyjnym abozam „Związek Młodej Wsi“. Arhanizacyi hetaj u 1938 h. vialikuju kankurencyju pačaŭ rabić novasarhanizavany „ozonaŭski“ „Związek Młodej Polski“. Z hetaj pryčyny pavadyry abiedźviuch henych arhanizacyjaŭ starajucca adzin pierad druhim i pierad vysokimi ŭładami i pierad moładździu pakazać siabie ŭ jak najlepšym śviatle.

Voš-ža aficyjalny orhan centralnaha „Związku Młodej Wsi“, časapis „Siew Młodej Wsi“ ŭ № 3 z 15 I.39, u pieradavym artykule p. n. „Spokój na Kresach Wschodnich“, miž inšym, hetak piša:

„U praciahu 20 hadoŭ svaje dziejnaści siarod maładoha sialanskaha pakaleńnia na ŭschodnich ziemlach Sajuz naš zdabyŭ praz ćviordyja dośledy pracy mocnuju systemu ŭzhadavaŭčaje pracy i pavodle jaje navučaje šmatlikija rady sialanskaje moładzi: polskaje, biełaruskaje, litoŭskaje i ŭkrainskaje, jak katalickaje, tak pravasłaŭnaje i hreka-katalickaje. Asnovaj u pracy jość dumka: „volnyja z volnymi, roŭnyja z roŭnymi“.

Vielmi pryhoža!.. Ale čamu heta likvidujucca tymi-ž centralnymi ŭładami „Związku Młodej Wsi“ tyja hurtki hetaje arhanizacyi ŭ našym Krai, katoryja prabujuć pravodzić kulturnuju pracu pabiełarusku, abo ŭvodziać u biblijateki biełaruskija knižki?..

Kali „roŭnyja z roŭnymi“, dyk čamu „Z.M.W.“ nia stavić kulturnaje biełaruskaje pracy na raŭnie z takoj-ža pracaj polskaj u našym Krai? Tymčasam, čamuści ab biełaruskaj kulturnaj pracy „ZMW“ ničoha nia čuvać, choć siarod nasielnictva našaha Kraju kulturnaja praca pabiełarusku pavinna być branaja najpierš pad uvahu, bo tolki biełaruskaja kulturnaja praca budzie należna viaści naš Kraj da dabrybytu.

Nia hledziačy na ŭsio vyšej skazanaje, radzim tej biełaruskaj moładzi, jakaja jašče naležyć da „ZMW“ słovy „Siewu Mł. Wsi“ pryniać za dobruju manetu i zažadać, kab uva ŭsie biblijateki „ZMW“ u našym Krai byli ŭviedzieny biełaruskija knižki, kab lekcyi, pradstaŭleńni ładzilisia pabiełarusku, kab kožny chor piajaŭ biełaruskija pieśni i h. d.

Moładź biełaruskaja, katoruju polskija arhanizacyi chočuć vykarystać dla svaich metaŭ, pavinna aryjentavacca ŭ pałažeńni i tak pastupać, kab raźvivałasia biełaruskaja kulturnaja praca, dy papraŭlaŭsia los miascovaha biełaruskaha nasielnictva.

*j. n.*

## Вучні запісаныя Беларусамі

Паводле статыстыкі Міністэрства Асьветы Польскай Рэспублікі у 1936-37 школьным годзе ў сярэдніх школах было запісана роўна 720 вучняў, якія падалі беларускі язык, як свой родны. З гэтага:

у казённых школах было 602 ч.
у неказённых „ „ 118 „

З агульнай лічбы 720, у Беларускай Гімназіі (філіі) у Вільні было толькі 170 чал., а рэшта – 550 чал. — вучыліся ў школах польскіх:

| | | |
|---|---|---|
| у Наваградзкім в. | (186+22*=) | 208 |
| у Віленскім . „ | (104+70=) | 174 |
| у Беластоцкім . „ | ( 64+22=) | 86 |
| у Валынскім . „ | ( 44+ 0=) | 44 |
| у Варшаўскім . „ | ( 20+ 0=) | 20 |
| у Палескім . „ | ( 7+ 1=) | 8 |
| у Люблінскім . „ | ( 5+ 0=) | 5 |
| у Келецкім . „ | ( 0+ 2=) | 2 |
| у Лодзкім . „ | ( 1+ 0=) | 1 |
| у Пазнанскім . „ | ( 0+ 1=) | 1 |
| у Львоўскім . . „ | ( 1+ 0=) | 1**) |

Гэта лічбы афіцыяльныя. З гэтай-жа статыстыкі даведваемся, што ў тым-жа часе ў чатырох ваяводзтвах — Наваградзкім, Віленскім, Беластоцкім і Палескім — усіх вучняў у сярэдніх школах польскіх было 18.108, з якіх праваслаўных — 1.578. Разам з 153 праваслаўнымі вучнямі Віл. Беларускай Гімназіі (філіі) дасьць гэта лічбу **1.731.**

Як бачым, Беларусамі не запісана нават палавіна праваслаўных, не гаворачы ўжо аб каталіках.

---

*) першая лічба ў дужках абазначае лік вучняў у школах казённых, а другая — у неказённых.

**) Паводле „Oświata i Wychowanie“ за 1938 год, сшытак 7-мы, бач. 658 – 669.

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

**Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу!**

## Jak paŭstaŭ hramafon?

Siarod Biełarusaŭ na vioscy hramafon dasiul byŭ redkaściu, bolš zatoje pašyrany jon u miestach, asabliva siarod zamažniejšych miaščan. Apošnimi adnak hadami zacikaŭleńnie hramafonam vielmi ŭzrasło. Pryčynilisia da he taha ŭ pieršuju čarhu pryhožyja plitki z biełaruskimi pieśniami ŭ vysaka-mastackim vykanańni słaŭnaha biełaruskaha śpievaka Michała Zabejdy-Sumickaha. Biełaruskija plitki ściahvajuć da hramafonu - hetaje „cudoŭnaje“ mašynki—masu ludziej, katoryja časta ŭ składčynu kuplajuć sabie nia tolki plitki, ale hramafony i padobnyja da ich patefony.

Adnačasna cikava, jak-ža-ž paŭstała henaja „cudoŭnaja“ mašynka, katoraja pieradaje i miłyja tony našych biełaruskich pieśniaŭ?

Hramafon faktyčna nia jość najnaviejšym vynachodam. Jon užo dobrych paru dziesiatkaŭ hadoŭ słužyć ludziam. Vynajšoŭ jaho vialiki amerykanski vynachodčyk Edison, jaki pamior niekalki hod tamu.

Edison, pryjmajučy za asnovu, što kali my havorym dyk adnačasna paŭstaje ruch falaŭ u pavietry, pastanaviŭ pieraniaści i ŭtryvalić hetaje falavańnie na metalovyja plitki, kab paśla adpapiednym štyftam, ihołkaj, vyklikać ich paŭtorna. Dumku stvaryć mašynu, jakaja zamacoŭvała-b ci lepš skazać utryvalivała-b čałaviečuju movu, Edisonu chutka ŭdałosia ździejśnić. Peŭnie pieršy hramafon nie vyhladaŭ hetak, jak ciapierašnija hramafony. ale asnova ich astałasia edisonaŭskaja.

Hramafonaja plitka, jakaja raźviesialaje pryhožaj pieśniaj ci muzykaj, paŭstaje ŭ specyjalnych fabrykach pry častych probach i miarkavańniach.

Naihryvajuć plitki spačatku na vaskovaj masie, z jakoj robiacca paśla metalovyja adlivy. Kali metalovaja forma jość, adbitki, ci faktyčnyja hramafonnyja plitki paŭstajuć chutka. Adzin rabotnik u praciahu hadziny moža adbić kala 60 plitkaŭ. Samyja plitki robiacca z masy, u skład jakoje uvachodziać: talka, žyvica, ziamny vosk i vałakno. Na plitcy bačym my kruhi, z utryvalenymi hukami, i hetyja huki pry pomačy membrany i specyjalnaje ihołki možam mnohija razy paŭtarać—słuchać.

Utryvalivajucca, naihryvajucca na plitkach huki, padobna jak i vyklikajucca, — taksama adpaviednym štyftam—ihołkaj. Z. B.

## *Арабская прыповесьць*

*(Із Змоўскага)*

*Нясьмела, з пашанаю, да Магамэта*
*прыйшоў маладзён ды гавора ён гэтак:*
*—„Бацькі мае зьмерлі і спадку ня маю,*
*цяпер ад Прарока я ведаць жадаю,*
*ці ёсьць у мяне абавязкі да іх?“*
*І кажа Прарок:—„Ёсьць, чатыры усіх:*
*За бацькавы душы маліцца да Бога,*
*сплаціць іх даўгі, не ўтаіўшы нічога,*
*у памяці мець, што бацькі шанавалі,*
*шчадзіць-жа усё, што яны збудавалі.“*

*ЎЛАД-ІНІЦКІ*

## Выбары ў самаўрад і маладое беларускае пакаленьне

*(Голас з вёскі)*

Фармальна ў выбарах у самаўрад можа прыймаць удзел толькі тая моладзь, каторая мае ўжо скончаных 24 гады, але выбарнай акцыяй, г. зн. памагаць у праводжаньні выбараў добрай радай, могуць займацца і малодшыя. Гэтак фактычна і было ў некаторых мясцох. І там, дзе памагала моладзь, там пераважна ў нашым краі выбіранымі былі ў рады Беларусы.

18.XII.38 г. адбыліся выбары ў вясковыя грамадзкія рады на абшары Нясьвіжскага пав. Галасаваньне мала дзе адбывалася, бо пераважна было выстаўлена па адным сьпіску, які ўкладалі паны з ОЗН. Шырэйшыя-ж народныя кругі фактычна ня ведалі, як гэныя сьпіскі рабіць, ня знаючы новага выбарнага закону. Калі-ж дзе паўставаў другі сьпісак, дык ОЗН усімі спосабамі стараўся дабіцца з ім „абяднаньня,“ ці як у нас кажуць „паеднаньня,“ ідучы часта нават на вялікія ўступкі. Падобна было, між іншым, у нашай грамадзе — Вялікая Бухаўшчына, каля Клецку, Нясьвіжскага пав. У нас побач із сьпіскам „озонаўскім“ знайшоўся другі сьпісак сарганізаваны мясцовым маладым пакаленьнем. (Трэба сказаць, што шмат у гэтым памагла нам „Выбарная ардынацыя,“ каторую атрымалі мы ад „Шляху Моладзі“). Сьпісак гэты нарабіў шмат шуму і ўпрацягу некалькі дзён былі ўсьцяж робленыя стараньні „паеднаць“ яго з „озонаўскім“. І хоць тэрмін падачы сьпіскаў быў да 6.XII.38, аднак яшчэ 12.XII. былі спробы стварыць адну лісту. Паўнамоцнік беларускай лісты быў стойкім і не згадзіўся на ніякае „паеднаньне.“ Тады ўжо чакалі 18 сьнежня — дня выбараў і вынікаў галасаваньня.

Ня гледзячы на тое, што дзень 18 сьнежня быў марозным, аднак у выбарах прыймаў даволі вялікі працэнт насельніцтва. Галасаваньне адбывалася тайна, а вынікі яго аказаліся наступныя: першы „озонаўскі“ сьпісак атрымаў каля **190 галасоў і правёў 6 радных і 1 заступніка,** а другі сьпісак здабыў **540 галасоў і правёў 10 радных і 15 заступнікаў.** Пры тым трэба адзначыць, што на радных з першага сьпіску прыпадала па **27 галасоў,** а з другога сьпіску — па **91 галасоў.** З другога сьпіску прайшлі ў раду нашыя маладыя беларускія мясцовыя дзеячы: І. Мартышэнка, Цар і інш., пры помачы якіх наша вёска падала ўжо другі раз дэкляарацыі на беларускую школу. З другога сьпіску прайшла ў раду адна беларуская дзяўчына.

Выбары ў Вялікай Бухаўшчыне ёсьць найлепшым прыкладам, што можна зрабіць пры добрай арганізацыі, стойкасьці і пры помачы маладога сьведамага беларускага пакаленьня.

Зусім інакш было ў суседняй мясцовасьці, у Малой Бухаўшчыне, дзе старыкі згадзіліся пайсьці на ўгоду з ОЗН і на 12 радных беларускіх сялян трапіла толькі 3 чалавек, а рэшта — г. зв. „шляхта,“ каторая што будзе хацець, тое будзе й рабіць.

Дзеля таго маладое беларускае пакаленьне, беларуская моладзь, павінна зварочваць вялікую ўвагу на самаўрадавыя выбары і памагаць сваім бацьком кіраваць так выбарнай акцыяй, каб як у грамадзкія, так у валасныя, а так-жа ў паветавыя рады праходзілі свае людзі — стойкія Беларусы, каторыя будуць належна кіраваць самаўрадам, бароняч інтарэсаў мясцовых сялян і заводзячы дабрабыт.

*Бухаўскі*

### ZAHUDZIELI KAŁAŬROTY

Bliščać zoraŭ pazałoty
ŭ ćmie kaladnich čornych snoŭ...
Zahudzieli kałaŭroty
pa radzimych siołach znoŭ.

Cieraz pustki i bałoty
vichry topiać sioły ŭ śnie...
Zahudzieli kałaŭroty,
zahudzieli, hej, usie!

Ruk biazliku, ruk harotnych
ŭzvarušyła pracy mach.
Zahudzieli kałaŭroty...
Hej, snujom radzimy ściah!

Z ćmy dalin z dušoj piavučaj
ŭzmach asnovy, šyr tkańnia,
z zaroj jasnaj my spałučym,
z zaroj zaŭtrašniaha dnia.

K. RAHOJŠA

### Z cyklu „Žyćcio i kraski"

Pryjšła para zimovaja,
chałodnaja para,
z joj dumačka ni novaja:
nima nidzie dabra

I chatku kryvabokuju
klon z žałaści padpior,
a vosieniaj hłybokaju
strachu sadraŭ vichor.

Panuje hora lutaje
u chacie mužyka,
ściskajecca pakutaju
duša u biedaka.

Nia moža jon papravicca
biaz strachu streć zimu,
choć kolki hod starajecca —
dy nie viazie jamu...

Kali-ž to nieba chmarnaje
daść łasku i pryviet
i praŭda śvietazarnaja
satre niadoli śled?

N. ŽALBA

---

Śv. † p.

## MACIEJ JAREMIČ

baćka b. biełaruskaha pasła ŭ Sojm Fabjana Jaremiča, pamior 15.I.1939 h. u vioscy Dulaŭcy, Vaŭkavyskaha pavietu, u vieku 83 h. Pachavany 18.I.1939 na mohiłkach u Repli.
Viečny supakoj Jahonaj dušy!

## Справа недаручаньня беларускіх часапісаў

Ад Новага 1939 году падпішчыкі за сыпаюць нас скаргамі аб недаручаньні ім некаторымі паштовымі ўрадамі „Шляху Моладзі". Дзеля гэтага надовячы падалі мы ў Дырэкцыю Поштаў скаргу на некалькі паштовых урадаў і будзем старацца, каб часапіс наш быў даручаны акуратна. Той жа спаміж падпішчыкаў, хто аплаціў у час падпіску і міма таго не дастае часапісу ў пару,— каб ня траціць грошаў і часу на пісаньне да нас пісьма, хай з сьведкам (лепш з двума!) ідзе на сваю пошту і дамагаецца, каб яна прыняла або сама выслала да нас **рэклямацыю** (паўторнае запатрабаваньне). Трэба ведаць пры гэтым, якога нумару падпішчык жадае. Рэклямацыя нічога не каштуе і пошта прыняць яе мусіць, а калі-б чамусьці не прыняла, тады толькі трэба аб усім нам напісаць, падаючы між іншым: сваё імя,прозьвішча і адрыс, назоў самой пошты, імёны і прозьвішчы сьведкаў і скуль яны паходзяць (вёска, мястэчка) і калі (дзень, месяц) усё гэта дзеелася.

Самая рэклямацыя выглядае гэтак:

> *Reklamacja gazetowa*
>
> У рэдакцыю часапісу „Шлях Моладзі" у **Вільні**
>
> Wilno, Zawalna 1—2.
>
> Не атрымаў „Шляху Моладзі"
> **№ 1 з 1939 году.**
>
> **25 студзеня 1939 г.**
>
> (Дата) **Сьцяпан Дрозд** (Подпіс і адрыс) **в. Залесьсе. п. Дубнікі.**

Нічога больш у такой рэклямацыі пісаць ня можна. Напісаную картачку трэба ўлажыць у заадрысаваны, але незаклеены канвэрт, на каторым над адрысам, у правым кутку ўверсе, яшчэ пішыцца „Reklamacja gazetowa." Гэткае пісьмо — рэклямацыю, без паштовай маркі, пошта павінна прыняць і пераслаць паводле адрысу, гэта знача ў нашую Адміністрацыю.

Такім чынам будзем бяз лішніх коштаў змагацца з неакуратнасьцяй, якая прыносіць вялікія шкоды. Калі гэтага будзе мала, калі не памогуць рэклямацыі і скаргі ў Дырэкцыю Пошт., дык будзем шукаць помачы ў вышэйшых уладаў і пацягнем вінаватых у Суд.

*Адміністрацыя „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ"*



Z biełaruskich rynkaŭ.

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Vysialeńni i pieramiaščeńni.** Pavodle atrymanych viestak z vioski i apublikavanych užo ŭ niekatorych časapisach, administracyjnyja ŭłady vysielili z Navahradčyny, jakaja ŭvachodzić u pryhraničnuju pałasu, užo nia mała Biełarusaŭ z ichnich sialibaŭ. Vysieleny miž inšym: Al. Huryn z v Tupały, Viera Bahielanka z v. Savašy, Tamaš Žuk z v. Žuki—vol. Ščorsy, Ivan Kopać i Anatol Barjaš z v. Lasok, Karelickaj vołaści. Adnačasna adbyvajecca pieramiaščeńnie vučycialoŭ-Biełarusaŭ u etnohrafičnuju Polšč. Niadaŭna pieramieščany z Navahradčyny nastupnyja vučyciali: Bitus, Al. Orsa i Mich. Čatyrka. Apošnija dva byli vučycielami b. Biełaruskaj himnazii ŭ Navahradku.

**Śpis Biełarusaŭ i Ukraincaŭ u Niamieččynie.** Presa padaje, što ŭrad Niamieččyny pastanaviŭ praviaści śpis usich Ukraincaŭ i Biełarusaŭ u cełaj Niamieččynie. Žyvučyja tam Ukraincy i Biełarusy rejestrujučysia majuć adkazać, miž inšym, na hetkija pytańni: 1. Da jakich ukrainskich (abo biełaruskich) arhanizacyjaŭ naležać? 2. Jakija majuć vajskovyja kvalifikacyi (nazvać pałki rasiejskaj ci inšaj armii, u jakoj słužyli). i 3. Jakaja majemaść skanfiskavana im na abšary SSSR?" („Нова Зоря" № 3, 15.I.39).

**„Bieł. Krynica" u Sudzie.** Vilenski Akr. Sud 25 h.m. razhladaŭ spravu pieršaha spynieńnia („zawieszenia") „Bieł. Krynicy" i pastanaviŭ spyniajučy prysud I-šaj instancyi skasavać. „B. Krynica", adnak nia moža vychodzić, bo jość jašče adzin spyniajučy prysud.

**Niama dazvołu na biełaruskaje pradstaŭleńnie.** Nas paviedamlajuć, što ŭ Staŭpieckim pav. padčas Kaladaŭ niekatoryja Biełarusy prajektavali, za prykładam minułych hadoŭ, zładzić biełaruskija pradstaŭleńni. Adnak pradstaŭleńni nie adbylisia, bo arhanizatary ich nie atrymali dazvołu pavietavaha starastva. Z hetaj pryčyny nie adbylisia prajektavanyja biełaruskija pradstaŭleńni ŭ vioskach: Zadvorje, Zasule, Stary Śvieržań i ŭ m. Novy Śvieržań.

**Novy lekar Biełarus.** Nadoviačy skončyŭ medycynski fakultet Vilenskaha Universytetu siabra Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu Michaś Jakimiec. Novaha lekara Biełarusa vitajem i žadajem płodnaj pracy na biełaruskaj nivie!.

**„Bieł. Front" dvutydniovikam.** Paśla Novaha 1939 Hodu „Bieł. Front" pačaŭ vychodzić dva razy ŭ miesiac—kožnaha 1 i 15. Dahetul vychodziŭ jon raz na miesiac.

**Jołka dla biełaruskaje moładzi.** 18.I u Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii adbyłasia jołka dla biełaruskaje vučnioŭskaje moładzi Kaladni hety viečar ładzili biełaruskija skaŭty.

**Z žyćcia Biełarusaŭ u Litvie.** 14.1 u Kaŭnasie dramatyčnaja sekcyja Biełaruskaha Kulturna-Aśvietnaha Tavarystva ŭ Litvie ładziła biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili kamedyju V. Dunin-Marcinkieviča „Pinskaja šlachta" i pjesu Čužanina „Vylečyŭ". Pierad pradstaŭleńniem adv. Bojeŭ u pryhožych słovach paznajomiŭ prysutnych z tvorstvam pieršaha bieł. dramaturha V. Dunin-Marcinkieviča. Na zakančeńnie viečaru adbylisia tancy. Publiki było mnoha. („Л. Вѣстн." z 17.I.39).

**Mineralnyja bahaćci ŭ Biełarusi.** Hazety padajuć, što Instytut Hieolohii i Hidreolohii Akademii Navuk BSSR u Miensku adkryŭ na poŭnač ad Viciebsku bahatyja słai mahnitna-žaleznaj rudy, jakija ciahnucca šyrokaj 55-ci kilametrovaj pałasoj.

**Bahaćci Biełarusi na filmovym ekranie.** Dziela vobraznaha paznańnia ŭsich bahaćciaŭ Biełarusi, kinostudyja „Savieckaja Biełaruś" vypuściła poŭmetražny navukova-papularny film „Gieografija BSSR". Film hety praznačany dziela dapamohi školnikam i pakazvaje pierad usim bahaćci Savieckaj Biełarusi.

**Biełaruskija piśmieńniki ŭ Maskvie.** Ad 28 studzienia da 1 lutaha ŭ Maskvie maje adbycca cely rad viečaroŭ biełaruskaje litaratury i kultury, u jakich prymuć udzieł biełaruskija piśmieńniki z BSSR: J. Kupała, J. Kołas, Klimkovič, Krapiva, Broŭka, Kulašoŭ i inš. Na viečaroch henych vystupać buduć tak-ža biełaruskija kampazytary, śpievaki i mastaki, vykonyvajučy biełaruskija tvory.



# ШТО ЧУВАЦЬ

— На паседжаньні буджэтнае Соймавае Камісіі **ў Варшаве** 12.I. пасол ген. Л. Жэлігоўскі хацеў сказаць прамову, у каторай меў закрануць справу самаўрадавых выбараў і высяленьня некаторых каталіцкіх ксяндзоў з Віленскага ваяводзтва, аднак віцэ-маршалак Сойму, кіраўнік гэнага паседжаньня, ня даў ген. Жэлігоўскаму голасу.

— 11.I. П. Прэзыдэнт **Рэчыпаспалітай Польскай** прыняў новага **літоўскага пасла Юргіса Шаўліса,** які дагэтуль прадстаўляў літоўскі ўрад у Нямеччыне. Дасюлешні, першы літоўскі пасол у Польшчы К. Шкірпа перанесены ў Бэрлін.

— Пасьля адведзінаў польскага міністра **Бэка ў Гітлера,** у Варшаву 25.I. прыяжджае **нямецкі міністр заграсічных спраў Рыбентроп,** а пазьней **італьянскі міністр Чіано,** якія зьяўляюцца галоўнымі майстрамі **антыкамуністычнага саюзу,** да каторага надовячы далучылася **Мадзяршчына.**

— Паездка **англійскіх** дыпляматаў Чэмбэрлена і Галіфакса ў Рым да **італьянскага** дыктатара Муссоліняга нічога не дала. Палажэньне на Міжземным моры. дзе крыжуюцца інтарэсы **Англіі, Францыі і Італіі,** далей асталося ня вырашанае, а нават грознае. Нічога гэта паездка не памагла і Гішпаніі, лёсам каторай зацікаўлена так-жа Англія і Францыя з аднаго боку, а Італія і Нямеччына з другога боку. Наадварот, **барацьба ў Гішпаніі** вельмі завастрылася. Ген. Франко ўзмацаваны новымі італьянскімі вайсковымі аддзеламі вядзе вострую атаку на Каталёнію, прыбліжаючыся да ейнай сталіцы Барцэлёны. **У Францыі** сацыялісты і камуністы дамагаюцца ад францускага ўраду помачы для гішпанскіх рэспубліканцаў, але ўрад на гэта не згаджаецца.

— **Англію** пачалі моцна трывожыць унутраныя падзеі. Нявыкрытая дасюль нейкая тайная арганізацыя ўсьцяж падкладае пад рознымі ўрадавымі будынкамі бомбы, якія ўзрываючыся робяць вялікія шкоды.

— У **СССР** выданы новы закон для работнікаў, якім абніжана заработная плата на 15 працэнтаў, а норма працы павялічана на 25 працэнтаў, гэтым самым скасаваны 8-мігадзінны дзень працы. Выклікала гэта вялікае незадаваленьне сярод работнікаў, а ў Ленінградзе 14.I. выбухла забастоўка ў фабрыках аружжа. Забаставала больш 25.000 работнікаў, якія не хацелі і працаваць і выходзіць з фабрыкі. Разганялі іх газамі, пры тым 500 чалавек арыштавана.

— На **Далёкім Усходзе** японска-кітайская вайна адбываецца бяз большых зьменаў. Газэты толькі зварочваюць увагу на большую стойкасьць кітайскага войска, некалькі перамогаў каторага моцна яго падтрымала на духу.

— У **Бэльгіі** адбылася частковая зьмена ўраду, новага аднак яна нічога ў палітыку ня ўносіць.

— У **Жэнэве** (Швайцарыя) адбылася бяз большага зацікаўленьня чарговая сэсія Лігі Народаў.

**Н.**

**Kolki jość intelihientaŭ u Polskim Haspadarstvie.** Časta možna ŭžo pačuć, što zašmat jość intelihientaŭ. Voś-ža „Głos Nauczycielski" padaje, što ŭ całaj Polskaj Respublicy jość tolki nia cely 1 pracent ludziej, jakija skončyli siaredniuju školu, tak što nadmieru intelihientaŭ niama, a navat adčuvajecca niedachop ich. Vučycialoŭ pavinna być 125.000 a jość tolki 89.000, ale iz ich až 10.000 biezrabotnych. Lekaraŭ pracuje 12.427,— adzin dochtar prypadaje na 10.000 žycharoŭ. Tymčasam u Madziarščynie na 10.000 žycharoŭ jość 10 lekaraŭ, u Niamieččynie—7, u Francyi—6, a ŭ SSSR—5. Advakataŭ u Polskaj Resp. na 10.000 žycharoŭ prypadaje dvuch. Usich universytetaŭ u Polščy jość 5 na 35 miljonaŭ žycharoŭ. Małaja-ž Švajcaryja, z svaimi 4 z pałavinaju miljonaŭ žycharoŭ, maję až 7 universytetaŭ. Nie chapaje ŭ Polščy asabliva ludziej z specyjalnaj fachovaj aśvietaj, jak inžynieraŭ, ekanamistaŭ, koo eratараŭ i im padobn. Ahułam nadmierna vialikaha liku intelihiencyi nia treba bajacca, a treba imknucca da taho, kab intelihiencyi było jak najbolš, dy kab nia było, asabliva ŭ našym krai, ni adnaho čałavieka, jaki-b nia ŭmieŭ čytać dy pisać. Błaha tolki, što intelihienty najčaściej bajacca mazala, šukajuć lohkaha chleba i mahčymaści karystać z čužoje pracy. Z takim, naskroś fałšyvym paniaćciem roli intelihienta, treba, biazumoŭna, zmahacca.

**Niamieckaj moładzi nia možna ani kuryć, ani pić harełki.** Pravadyr niamieckaje moładzi Baldur von Širach apublikavaŭ zvarot da niamieckaje moładzi, u jakim padčyrknuŭ, što moładź— chłopcy da 18 hadoŭ, a dziaŭčaty da 21 hodu svajho žyćcia,—pavinna ŭstrymlivacca ad kureńnia i pićcia alkaholnych napitkaŭ. Hetym samym budzie jana naśledavać pravadyra Niamieččyny, Hitlera, katory ni kuryć i nia pje alkaholnych napitkaŭ. Faktyčna prykład hety hodny da jak najšyrejšaha naśledavańnia i našaj moładzi.

**Nia 50.000 a 700.000 zabitych Japoncaŭ.** Niadaŭna presa apublikavała viestku, katoruju i my pieradrukavali, što na Dalokim Uschodzie ŭ japonska-kitajskaj vajnie dasiul zabita kala miljona Kitajcaŭ i tolki kala 50.000 Japoncaŭ. Voś-ža pavodle zajavy kitajskaha maršała Čank-Kaj-Šeka viestki adnosna strataŭ Japoncaŭ nia zhodnyja z praŭdaj, bo ahułam u hetaj vajnie Japoncaŭ žhinuła najmienš 700.000 asob. Aprača taho žbitych było 649 japonskich samalotaŭ i zatoplena 500 karabloŭ.

# ЧАС ТРЫВОГІ І ШАЛЁНАГА ЎВАРУЖЭНЬНЯ

Ад некалькі год увесь сьвет жыве пад страхам новае страшнае сусьветнае вайны. Найбольш трывожнымі часінамі ў сувязі з гэтым былі: пачатак вайны Італянска-Абісынскай у 1935 г., выбух хатняе вайны ў Гішпаніі ў 1936 г., першыя аружныя сутычкі японска-кітайскія на Далёкім Усходзе, а пасьля—далучэньне Аўстрыі і Судэтаў да Нямеччыны, а так-жа грозны аружны канфлікт японска-савецкі ў 1938 годзе. Цяпер мара вайны паўстае ў сувязі з каляніяльнымі дамаганьнямі Нямеччыны і Італіі ад Францыі і Англіі, а таксама вялікімі нямецкімі плянамі перабудовы Усходняе Эўропы. Як далей будуць разьвівацца падзеі, цяжка прадбачыць. Аднак некаторыя палітыкі кажуць, што новая вайна пачнецца сёлета на вясну. Пачаць яе мае быццам Нямеччына ідучы на Усход, каб дзяліць СССР на паасобныя гаспадарствы, або Італія атакуючы францускія калёніі ў Афрыцы. Але пакульшто адбываюцца толькі спрэчкі ў прэсе і паездкі міністраў, часамі дэманстрацыі, а галоўна нябывала вялікае ўваружэньне. Усе бадай гаспадарствы адно перад другім стараюцца як найлепш уваружыцца.

Цікавыя дадзеныя аб збраеньні падаў выданы нядаўна ў Жэнэве ваенны гадавік Лігі Народаў за 1938 г. Паводле гэтага гадавіка выдаткі на ўваружэньне ўзрастаюць з шалёнай скорасьцю. Агульная сума вайсковых выдаткаў у 1938 г. 64 гаспадарстваў выносіла 9 мільярдаў 400 мільёнаў залатых доляраў, тады, калі на гэныя-ж справы яшчэ ў 1937 г. было выдана 8 мільярдаў. Найбольш выдаюць на ўваружэньне 7 вялікіх гаспадарстваў, каторыя ў 1938 г. выдалі 7 мільярдаў 400 мільёнаў. 10 год таму, г. зн. у 1929 г., гэтыя-ж 7 гаспадарстваў выдалі на ўваружэньне толькі 2 мільярды 700 мільёнаў доляраў.

Сёлета найбольш страху шмат каму наганяе вялікае збраеньне Нямеччыны, каторая асабліва разбудоўвае марскую флёту. Цяпер Нямеччына мае 43 падводныя лодкі і будуе яшчэ 28. Англія-ж, каторая лічыцца каралевай на моры, мае 51 лодку і будуе 12 новых. Дзеля таго Англійцы пачалі зварочваць Немцам увагу, што іхняе ўваружэньне ня згодная з англійска-нямецкім дагаворам аб збраеньні, які аграніча Немцаў. У адказ Немцы заявілі, што іхняя флёта ськіраваная супроць СССР, каторы мае найбольш падводных лодак, бо аж 160. Апрача падводных лодак Немцы будуюць 5 вялікіх ваенных караблёў. Моцна так-жа матарызуюць сваю сухапутную армію, у радох якой знаходзіцца 1700000 жаўнераў, і разьвіваюць лятунства. Паводле некаторых газэт лятунскія сілы ўвосені мін. году выглядалі гэтак: Немцы 3200, Англія 2200, Італія 1750, Францыя 1150 самалётаў. З гэтага відаць, якую вялікую перавагу маюць Нямеччына і Італія. Цяпер Англія і Францыя хутка даганяюць іх. Так напр., калі яшчэ ў 1937 г. францускія фабрыкі выпускалі ў месяц 33 самалёты, дык сёлета будуць ужо выпускаць па 200 самалётаў. Таксама хутка разбудоўваюць сваё лятунства і Англійцы. Пры тым Злуч. Штаты Паўночн. Амэрыкі, каторыя высказваюцца па старане Англіі і Францыі, сёлета маюць збудаваць 10000 новых самалётаў і да таго маюць больш 3000 самалётаў старых.

У адказ на нямецкую разбудову морскае флёты, Францыя ў 1939 г. распачала і мае збудаваць 130 новых ваенных караблёў. На гэта асыгнаваў францускі ўрад 8 мільярдаў франкаў.

Вялікія ўваружэньні адбываюцца і ў СССР, але ўсе зварочваюць увагу на аслабленьне савецкае арміі рознымі „чысткамі," у часе якіх арыштавана і часткава расстраляна каля 20000 афіцэраў, г. зн каля 25 працэнтаў афіцэрскага корпусу. Нястачу гэту бальшавікі хочуць папоўніць новымі маладымі афіцэрамі, каторым нават у сувязі з гэтым скарочана навука з 4 на 3 гады.

Пасьпешнае ўваружэньне і награмаджэньне ваенных матарыялаў, бязумоўна, раней ці пазьней давядзе да страшнага ўзрыву, час якога нікому ня ведамы.

Збанюк



Francuskija tanki na defiladzie ŭ Afrycy

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# З краю

## Коопэрацыя пашыраецца

**Тарнопальская вол., Ваўкавыскі пав.** Некаторыя сяляне ў нас даволі ўжо добра разумеюць значэньне свае арганізацыі і гандлю. Дзеля таго за апошніх пару год паўстала цэлы рад коопэратываў. І так ёсьць коопэратывы ў вёсках: Старое Леўкова, Круглы Лясок, Семяноўка, Шымкі, Бахуры, Баўтрукі і інш. Есьць так-жа прафэсыянальны саюз „транспартоўцаў,“ каторы шмат памог нашым плытнікам на рацэ Нарва да падвышэньня заработнае платы і паляпшэньня варункаў працы. Некаторыя коопэратывы здабылі шырокую папулярнасьць і поўнасьцю забясьпечылі ваколічных жыхароў у добра-якасныя і танейшыя чымся ў прыватных скляпох тавары. Але ёсьць коопэратывы, якія не змаглі належна разьвіцца, бо ня ўсе сяляне належна адносяцца да сваіх коопэратываў. Ёсьць і такія вёскі, дзе сяляне прабавалі залажыць коопэратыў, але не дасталі дазволу на арганізацыйныя сабраньні. Ня гледзячы на гэта коопэрацыю трэба пашыраць усімі сіламі, паўтараючы свае просьбы дазволу датуль, пакуль ня будзе ён выданы. Трэба так-жа здабываць новых сяброў існуючым коопэратывам, кліентаў і купляць у сваіх коопэратывах, бяручы адначасна чынны ўдзел у агульных сабраньнях коопэратываў.

**Ж.**

## Zrazumieli

**Skidel, Horadzienski pav.** Našyja žychary šmat čaho navučylisia i pačali pryznavać i lubić svaju rodnuju movu. Sioleta amal kožny haspadar našych viosak achvotna kuplaje biełaruskija kalendary, tak što ŭ pierapradaŭcoŭ na rynku nie chapaje ich. Tady handlary sunuć sialanam inšyja kalendary, ale spatykaje ich taki adkaz: Našto mnie jon, ja i darma nie vaźmu. Čamu? — pytaje pradaviec. Bo ŭ ich niama ničoha, a tolki padajuć „što budzie na abied”, a heta my ŭ svaim žyćci dobra znajem. U biełaruskich-ža kalendaroch jość cikavyja viestki, cennyja praktyčnyja rady, vieršy našych paetaŭ, humar, apaviadańni i h.d. Dziela taho treba, kab uva ŭsim našym kraju kožny Biełarus kuplaŭ kalendary ŭ svajej rodnaj movie.

**Janka Narcyz.**

## Ci ŭmieje naša moładź kulturna hulać

**Dziśnienščyna.** Ab viečarynkach, zabavach i hulniach moładzi ŭ Dziśnienščynie ahułam chodziać kiepskija čutki. I viestki ab tym, što niedzie pabilisia, abo navat i kaho zabili — na paradku dnia. Asabliva mnoha viečarynak było ŭ časie Kaladnich śviataŭ. Na adnej z ich pryjšłosia pabyvać i mnie. Była heta viečarynka ŭ v. Izabelin u słaŭnaha i papularnaha miascovaha „Dziadźki kazaka“. Sabrałasia da jaho kala 15 paraŭ miascovaje sialanskaje moładzi. Spačatku adbyŭsia pačastunak, a paśla byli tancy, jakija adbyvalisia ŭ najlepšym paradku. U pieraryvach moładź adpačyvajučy śpiavała strojna biełaruskija pieśni, a taksama adbyvalisia roznyja tavaryskija hulni. Adhulany ŭ miłym nastroi viečar pry spatykańni Novaha Hodu ŭ vioscy Izabelin śviedčyć, što moładź naša ŭmieje i moža hulać kulturna, paludzku. Najhoršaja reč, kali viaskovyja h. zv. „kulturniki” i kiraŭniki viečarynak panapivajucca harełki i pačynajuć adzin pierad druhim nastaŭlacca. Tady supakoju niama. Mnoha źmianiłasia-b na vioscy, kali-b z našych viečarynak vyvieli harełku, nažy i śvincoŭki. Tady viečarynki byli-b miłymi i pryjemnymi i nia było-b ab ich sumnych viestak.

**Uł. P.**

## Trymajemsia svajho

**v. Staryja Haby, Pastaŭski pav.** Časta pisałasia ab našaj staroncy i nie zaŭsiody byli dobryja viestki. Ciapier chaču dadać, što ŭsio-ž luboŭ da biełaruskaje movy, biełaruskich pieśniaŭ i zvyčajaŭ sierod moładzi pavialičajecca. Bolšaść moładzi paznała i naležna acaniła svaju movu i svajo drukavanaje biełaruskaje słova. Tolki, nažal, biednata vioski staić na pieraškodzie pašyrańniu svaich biełaruskich knižak i hazetaŭ. My idziom śladami svaich baćkoŭ i dziaćkoŭ, katoryja za časoŭ isnavańnia svaich biełaruskich arhanizacyjaŭ pravodzili vialikuju hramadzkuju i kulturnuju pracu. Ciapier inšyja abstaviny... Ale my, moładź, nia tracim nadziei i hartu, i nia budziem hladzieć na tych, katoryja časam vyrakajucca dla niekatorych karyściaŭ usiaho svajho rodnaha.

**Al. Š—ko**

## *Паштовая скрынка*

**Званару і Бунтарнаму:** Вершаў Вашых на Новы Год не змаглі надрукаваць з прычын цэнзуральных. Няхай гэта аднак ня спыняе Вас у працы.

**П. Граніту:** Вершы атрымалі. Дзякуем. У меру магчымасьці будзем друкаваць. Прапагандовыя нумары „Шл. Мол.“ выслалі.

**Uł. P.:** Za prysłanyja mataryjały ščyra dziakujem. Z pryčyny niastačy miesca zmušany adnak mocna ich skaracić. Pryvitańnie!

**У. Х.:** Артыкул і карэспандэнцыю атрымалі. Будзем старацца выкарыстаць.

**Бухаўскаму:** Карэспандэнцыю ахвотна друкуем і просім пісаць часьцей.

**Я. Нарцызу:** Верш слабы, ня вытрыманы ў разьмеры, думцы і кульгае мова. Карэспандэнцыю друкуем.

**Арк. Заранцы:** Вершы атрымалі і ахвотна будзем друкаваць тыя, якія зможам паправіць так, каб прайшлі праз цэнзуру, бо бадай усе яны могуць выклікаць канфіскату. Прывітаньне!

**Al. Šab—cy:** Vieršy słabyja i mohuć vyklikać kanfiskatu. Karespandencyju drukujem. Prapahandovyja numary „Šl. Moł.” i kataloh vysyłajem.

**V. Mirceviču:** Vieršy jašče słabyja, ale dobra što pracujecie nad saboj. Knižki pradavać možacie i dastaniecie na ich ad 25 da 50 pracentaŭ zarabotku dla siabie. Na pradažu na rynku treba vykupić kartu ŭ vołaści, abo ŭ skarbovych uładaŭ. Najvyhadniej bieł. knižki vypisvać z biełaruskaj kniharni „Pahonia” — Vilnia, Zavalnaja 1.

**K. Rahojšy:** Vieršy i piśmo atrymali. Dziakujem. Budziem pakrysie drukavać. U spravie niedaručańnia „Šlachu Moładzi“ ŭsio-ž padali my skarhu ŭ Dyrekcyju Poštaŭ. Usie numary, jakich prasili, byli vysłany paŭtorna, ale vidać i ich Vam nie addali. Pryvitańnie!

**J. Tar—ju:** Hrošy atrymali i časapis vysyłajem. Vidać hinie jon na pošcie. Prosim macniej damahacca. Kali-ž dalej nia buduć daručać, padamo skarhu vyšejšym uładam.

**M. Siemiancu:** Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Radzim bolš čytać biełaruskija knižki.

**Hruz. M.:** Zdolnaści da piara ŭ Vas jość. Nažal, apaviadańnie svajo Vy vielmi raściahnuli i jano stałasia nudnym. Dobra było-b, kab Vy jaho pierarabili, skaracili i tady možna budzie nadrukavać. Pry tym treba ŭsio-ž staracca pisać bieł. litaraturnym jazykom.

**J. Žd—nu:** Prapahandovyja numary byli Vam vysłany. Vidać zahinuli na pošcie. Prosim damahacca, kab toje, što Vam vysłana, było daručana. Vieršy słabyja. „Čaho smucicca Biełarus“ vielmi padobny da vierša K. Bujło „Lublu naš kraj“. Janka Kupała jašče žyvie i prabyvaje ŭ Miensku. Bolš čytajcie biełaruskija knižki i pišycie vieršy aryhinalnyja.

**Sav. Baz.:** Hrošy atrymany, knižki vysłany.

**Drah. Mik.:** Za adrysy dziakujem. Probnyja numary vyšlem. Biełaruskaje movy ŭ škole ciapier užo pozna damahacca, ale možna heta budzie rabić u miesiacy listapadzie i treba ab hetym pamiatać.

**A. Suvałku:** „Šlach Moładzi” vysyłajecca akuratna. Pilnujcie dobra na pošcie.

**J. Ram—lovu:** Apaviadańnie słaboje i nadta mocna ŭzaravanaje na drukavanych užo bieł. tvorach. Vieršy nia vytrymanyja raźmieram. Pry tym jość skazy niemahčymyja. Radzim bolš čytać i paznać dobra biełaruskuju hramatu. Probnyja numary vyšlem.

**Niŭcy:** Karespandencyju atrymali, vykarystajem.

**Łaŭr. Jemiel.:** Časapis vysyłajem akuratna, macniej damahajciesia na pošcie. Prośbu adnosna inšych časapisaŭ spaŭniajem.

*„Шлях Моладзі“ друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар кантачэкі „przekazu rozrachunkowego” 59.

Wydawca: „Biełpres“. Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.